

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№43(556) 3 сакавіка 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618744 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Куда рулим?

**Вчера Председатель Верховного Совета республики С.С.Шушкевич встретился с работниками МАЗа.**

В основном речь шла о социальной защите населения в период гиперинфляции, о борьбе с коррупцией.

Станислав Шушкевич посетил сборочный цех и выступил в ДК МАЗа.

Более подробный отчет о встрече — в следующем номере.

Антон ЛЕ.

### И в забой отправились. Пока

Шахтеры Кузбасса, Воркуты и Ростова-на-Дону прекратили предупредительную забастовку.

Председатель Независимого профсоюза шахтеров Кузбасса Шарипов заявил, что шахты региона могут снова остановиться 10 марта, если переговоры с правительством о новом тарифном соглашении провалятся.

Виктор АНАТОЛЬЕВ.

### Возняк против Позняка

**"Наше поколение увидит поворот к социализму".**

Так, несколько перефразировав Хрущева, заявил в интервью газете "Витебский курьер" первый секретарь ЦК ЛКСМБ майор Сергей Возняк. "Потому что, — продолжил он, — капитализм обречен, а США беременны коммунизмом".

Комсомольский вожак предположил, что на ближайших выборах к власти придут представители компартии, ибо народ помнит, что при ней "все было", а сейчас, "в результате деятельности Народного фронта", ничего нет. Сергей, правда, не объяснял, каким образом группа депутатов от БНФ может пагубно влиять на экономику республики...

Степан СТАРОЖИЛ.

### И за что я в тебя такой влюбленный?

**Вслед за неудачными нарушителями — ливанцами (о которых "Народная газета" рассказывала) при попытке пересечения Государственной границы в брестской зоне на днях задержаны одиннадцать (!) граждан Пакистана.**

"Мозгом" акции оказался пакистанский же студент одного из киевских вузов, а основным действующим лицом — его украинская подружка, в задачу которой входил подкуп начальника погранзаставы — ему намеревались всучить 5,5 тысячи долларов. Интересно, что несколькими днями раньше 5 пакистанцев были задержаны в приграничной деревне Томашовка.

Василий ВИКТОРОВИЧ.

### В Кабуле тянут резину?

**Немало сужено-ряжено о продукции Гомельского завода химических изделий. И, в частности, о резиновых галошах. Они, дескать, свое давно отслужили. Но...**

Заводчане недавно отправили первую партию резиновых галош по договоренности в Афганистан. Чем приглянулись афганцам наши галоши, сказать трудно...

Анатолий ИВАНОВ.

### Вкратце

**Министр обороны России Павел Грачев готов выступить с заявлением, если начавшийся вчера очередной раунд российско-украинских переговоров по стратегическим силам не даст положительных результатов.**

Как сообщает ИТАР—ТАСС, суть существующих разногласий пока не стала достоянием общественности. Остается надеяться, что они носят технический характер и поддаются урегулированию на уровне экспертов.

❑

**Вице-президент Российской Федерации Александр Руцкой провел вчера переговоры с премьер-министром Малайзии Махатхиром Мохамадом.**

Речь шла о торгово-экономическом сотрудничестве между двумя странами. В ходе переговоров была подробно обсуждена возможная сделка по приобретению в России партии истребителей МиГ-29.

❑

**Три американских военно-транспортных самолета "Геркулес" сбросили вчера ночью над Восточной Боснией вторую партию гуманитарной помощи.**

Она предназначена голодающим жителям осажденных анклавов в Восточной Боснии, куда не могут пробиться сухопутным путем конвои ООН.

❑

**За первый месяц текущего года на территорию ФРГ нелегально проникли 6.400 иностранцев, что в два раза больше, чем в январе 1992 года.**

Об этом сообщила вчера газета "Вельт" со ссылкой на министра внутренних дел ФРГ Зайтерса.

❑

**Канадскому казначейству безработица обошлась в прошлом году в рекордную сумму — 19,3 миллиарда долларов.**

Эта сумма потрачена не только на пособия, но и на переучивание, на специальные программы.

❑

**Пакистан выступил с новой инициативой, направленной на достижение мира в Афганистане.**

Суть ее в том, чтобы добиться отвода от Кабула на "безопасное расстояние" всех вооруженных формирований противодействующих группировок с целью прекращения огня. Затем — проведение между ними всеобъемлющих мирных переговоров.

### И уважать себя заставят?

**Президент России Ельцин заявил, что коммунисты, которые не противодействуют реформам, заслуживают признания со стороны правительства.**

В интервью газете "Правда" он отметил, что коммунисты России раскололись на две группы, одна из которых ведет себя более сдержанно и обладает чувством здравого смысла, вторая состоит из ортодоксальных сторонников твердой линии.

Указав, что к коммунистам нужно относиться уважительно, как и к любой другой партии, Ельцин, однако, заметил, что он ожидает взаимности от умеренных коммунистов и надеется, что они не будут противодействовать реформам, особенно на местах.

Константин УЛЬЯНОВ.

### Медицинский прогноз погоды на 3 марта

**Погода в Минске и области будет формироваться под влиянием периферии антициклона. Существенных изменений температуры и влажности воздуха, атмосферного давления и содержания кислорода в воздухе не ожидается.**

В таких погодных условиях маловероятно ухудшение самочувствия у основной группы метеозависимых больных. На исходе суток возможно ухудшение состояния больных заболеваниями сердечно-сосудистой системы с опережающей реакцией на геомагнитные условия 4 марта. Таким людям рекомендуется прием лекарств, назначенных врачом, включая успокаивающие средства.

Антонина КАРОЗА,
научный сотрудник БелНИИ кардиологии.

### Позвони мне, позвони...

**Сотрудники Академии наук Беларуси и научно-производственного объединения "Агат" работают над созданием телефонного аппарата, пользоваться которым можно будет при помощи магнитных карточек.**

Министерством связи объявлен конкурс на лучший проект такого аппарата.

Ирина НОЗДРИНА.

### Медленно, но уверенно

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске.**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 705 | 705 |
| Немецкая марка | 436 | 436 |
| Английский фунт | 976 | 1006 |
| Французский франк | 122 | 126 |
| Финская марка | 115 | 118 |

За минувшую неделю доллар подорожал в столице на тридцать рублей. По прогнозам экспертов, такой рост продлится еще несколько недель.

На вчерашних торгах Московской межбанковской валютной биржи доллар поднялся до рекордного уровня — за него давали 649 "деревянных".

☞

**Разница между российским безналичным рублем и белорусским теперь составляет уже 31 копейку.**

Естественно, не в нашу пользу.

Вчера на торгах Белорусской фондовой биржи было продано 9 миллионов рублей российской безналички.

Национальный банк республики реализовал более миллиарда рублей кредита. Самый маленький из них — на один месяц под 106 процентов.

Антон ЧЕКОВ.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты" агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*Беларусь — Румынія*

## "У нас імкненні агульныя"

Міністр замежных спраў Румыніі Тэадор Мелешкану, які завяршае сваё знаходжанне ў Беларусі, раніцай 2 сакавіка нанёс візіт кіраўніку беларускага парламента Станіславу Шушкевічу. У ходзе гутаркі, якая прайшла ў цёплай, дружалюбнай атмасферы, ён перадаў пасланне прэзідэнта Румыніі Іона Іліеску з выказваннем зацікаўленасці ў плануемым афіцыйным візіце ў краіну. Затым румынскі міністр правёў перагаворы з першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Міхаілам Мясніковічам.

Выступаючы пасля іх завяршэння на сумеснай са сваім беларускім калегам прэс-канферэнцыі, Тэадор Мелешкану, у прыватнасці, сказаў:

— На перагаворах размова ішла ў асноўным аб расшырэнні паўнацэнных і раўнапраўных двухбаковых адносін у самых розных сферах. Тэмай абмену думкамі сталі і пытанні правядзення ўзгодненай палітыкі на міжнароднай арэне. З румынскага боку, — указаў ён, — будзе выказана падтрымка пры выбранні Рэспублікі Беларусь пастаянным членам Савета Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Кіраўнік румынскай дыпламатыі падкрэсліў важнае значэнне падпісанага ў ходзе візіту пагаднення аб узаемных бязвізавых службовых паездках і парафіравання будучага галоўнага палітычнага дакумента — Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Румыніяй і Беларуссю. У стадыі распрацоўкі, паведаміў ён, консульская канвенцыя, а таксама цэлы пакет міжурадавых пагадненняў — аб узаемным абмене таварамі, супрацоўніцтве ў галіне эканомікі, культуры, адукацыі, навукі, аховы здароўя.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Тэадор Мелешкану назваў магчымыя канкрэтныя напрамкі румына-беларускіх эканамічных сувязей. Наша краіна, сказаў ён, зацікаўлена ў стварэнні сумесных прадпрыемстваў у галіне нафтахіміі, дрэваапрацоўкі, машынабудавання, вытворчасці прадуктаў харчавання. Цэнтр міжнароднага гандлю ў Бухарэсце, на думку міністра, ужо ў бліжэйшы час змог бы ўзяць на сябе функцыі па прэзентацыі беларускай прадукцыі для вядучых фірм сваёй і суседніх краін.

Як падкрэсліў міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка, у ходзе першага афіцыйнага візіту ў Беларусь Тэадора Мелешкану выявілася ўзаемнае імкненне дзвюх незалежных дзяржаў да ўмацавання адносін. Яно гарантуецца на агульным разуменні будучай мадэлі Еўропы, дзе аднолькава ўтульна жывецца ўсім нацыям, незалежна ад велічыні тэрыторыі і багацця дзяржаў.

Таццяна ХРАПІНА,
Белінфарм.

*У камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Не забываць пра чарнобыльскіх дзяцей

Пытанне аб аздараўленчым адпачынку дзяцей у 1993 годзе абмяркоўвалася на пасяджэнні Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў аховы здароўя, адукацыі, Дзяржкамчарнобыля і Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі.

Адзначалася, што ў рэспубліцы да гэтага часу адсутнічае канкрэтная сістэма аздараўлення дзяцей, і ў першую чаргу з раёнаў, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы.

Прызнана мэтазгодным даручыць весці работу па аздараўленню дзяцей камісіям райвыканкамаў і гарвыканкамаў у складзе прадстаўнікоў мясцовых улад, якія займаюцца праблемамі чарнобыльскай катастрофы, заключаць дагаворы з прадпрыемствамі, ведамствамі і ўстановамі, што маюць санаторыі, прафілакторыі і іншыя здраўніцы на тэрыторыі рэспублікі з мэтай іх выкарыстання для аздараўлення дзяцей на працягу года з арганізацыяй навучальнага працэсу для школьнікаў.

Вырашана прааналізаваць расходаванне сродкаў на гэтыя мэты за мінулы год на бліжэйшым пасяджэнні камісіі.

## Каб Беларусь мела новую Канстытуцыю

На працягу мінулага тыдня праходзілі пасяджэнні рабочай групы па дапрацоўцы праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Галоўная ўвага была засяроджана на рэалізацыі пастановы Вярхоўнага Савета ад 5 лютага 1993 года "Аб праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь", у якой дадзены канкрэтныя даручэнні Канстытуцыйнай камісіі і яе рабочай групе па дапрацоўцы праекта з улікам заўваг і прапаноў, выказаных народнымі дэпутатамі, і ў першую чаргу палажэння аб тым, што Беларусь — прэзідэнцкая рэспубліка, дзе прэзідэнт не толькі кіраўнік дзяржавы, але з'яўляецца і кіраўніком выканаўчай улады.

Разнастайныя думкі выказваюцца адносна паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета, парадку яго арганізацыі і дзейнасці, вызначэння канстытуцыйных асноў мясцовага самакіравання. Пільная ўвага ўдзяляецца аналізу палажэнняў аб правах і свабодах грамадзян у праекце новай Канстытуцыі.

Рабочая група працягвае працу над праектам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Прэс-служба ВС РБ — Белінфарм.

*Как выжить?*

## Будьте осторожны: на ваш карман много охотников!

Игорь ФИЛИПЕНКО

*"— Умненький, благоразумненький Буратино, хотел бы ты, чтобы денег у тебя стало в десять раз больше?*

*... Буратино выкопал ямку. Сказал три раза шепотом: "Крекс, фекс, пекс", положил в ямку четыре золотые монеты, засыпал, из кармана вынул щепотку соли, посыпал сверху.*

*И сел ждать, когда вырастет дерево..."*

*(Пример неудачного вложения капитала, глубоко запечатлевшийся в детской памяти автора.)*




Малюнак Алега ПАПОВА.

### Помогите разыскать

*акционерное общество "Белорусский биржевой банк". Год назад, в январе 1992 года, внес свои кровные и приобрел 30 акций по цене 100 рублей. До сих пор ничего не знаю о судьбе своего акционерного общества — несколько раз оно меняло адрес, а теперь окончательно исчезло из поля зрения.*

Михаил ФЕДОТОВ.
*г.Минск.*

*Я — пенсионерка, на старости лет приобрела акции АО "Садружнасць". Слышала, что уже несколько раз выплачивали дивиденды, но так и не собралась выехать в Минск. Не пропали ли мои проценты?*

*И второй вопрос: слышу по радио рекламу каких-то малых предприятий, которые сулят аж 300 процентов годовых. Очень соблазнительно, но нет ли здесь какого подвоха?*

Раиса ГОЛЬДМАН.
*г.Борисов.*

*Клюнул на рекламу корпорации "Громада" и приобрел несколько облигаций. Какие только льготы нам не расписывали: и снабжение товарами, и обеспечение экологически чистыми продуктами, и поставку медикаментов. Но прошло полгода — о "Громаде" ни слуху ни духу. Какие уж тут экологические продукты, хоть бы деньги кто помог вернуть...*

Сергей БАЙМЕТУЛИН.
*г.Заславль.*

### Попробуй отказаться,

когда тебе предлагают такое. Фантастическая возможность богатеть не по дням, а по часам — не ударив палец о палец. Неброская, но впечатляющая реклама малого предприятия "Альциона" именно это и обещала. Триста процентов годовых — не шутка. Впечатляет даже на фоне трехзначной инфляции.

Требовалось только принести не меньше десяти тысяч, подписать кое-какую бумагу, а дальше денежки будут размножаться сами. Приходи через год и получай уже вчетверо больше.

Круто, что сказать... Куда там "Громаде" с ее жалкими 25 процентами годовых, на которые она пыталась купить минчан и гостей столицы.

Очень хотелось посмотреть на ребят, жонглирующих миллионами с такой ловкостью.

Контактный телефон, как и следовало ожидать, оказался квартирным. Хозяин честно отрабатывал прибавку к пенсии: вам "Альциону"? Повороти на проспект "Известий" сразу налево, гостиница "Звезда", двенадцатый этаж, милости просим...

Офис "Альционы" не блистал роскошью. В гостиничном номере, сиротливо обставленном казенной мебелью, скучал сотрудник Сергей. В соседней комнате, куда были перетащены кровати, отдыхал могучего вида мужчина, вероятно, охраняя собранную наличность.

Где же они тут умудряются выколачивать триста процентов? Обдумать эту мысль как следует не удалось. Сотрудник Сергей начал ковать железо.

Для начала пристыдил меня за сомнения, прочитав их в глазах. Все честь по чести, можете посмотреть бумагу с печатями — МП "Альциона" зарегистрировано в Советском райисполкоме, торгово-закупочная деятельность, учредитель гражданин Борисов. Вот экземплярчик договора, пожалте ознакомиться...

Так, ясно: "малое предприятие принимает в качестве временной материальной помощи вклад в сумме..." И пускает, понятное дело, в торговый оборот.

Из дальнейшей беседы выяснились следующие любопытные подробности.

Малое предприятие берет только и исключительно наличными.

Приходного ордера или какой другой квитанции не выдает.

В штате "Альционы" бухгалтера не имеется. То есть совсем.

Получив такие ответы, оперуполномоченный отдела по борьбе с экономической преступностью обычно сверлит дырочку в кителе. Потому что деятельность "Альционы" незаконна с начала и до конца. Принимать вклады физических и юридических лиц могут только банки, получившие на то лицензию Национального банка республики. Ребята из гостиницы "Звезда" занимаются, по сути, банковской деятельностью, не имея никакого на это права. Налоговая инспекция, будь она порасторопнее, обнаружив факт нелицензионной деятельности, давно бы должна прихлопнуть гражданина Борисова такими штрафами, после которых он уселся бы с шапкой в подземном переходе. Но есть подозрение, что их дороги просто не пересекались. Принимая деньги только наличными, никак их не приходуя, гражданин Борисов в своей коммерческой деятельности не соприкасается ни с банками, ни с налоговой инспекцией, ни с другими государственными институтами.

Многим ли рискуют люди, соблазненные 300 процентами? Явным мошенничеством это назвать трудно. Возможно, кто-то и получит назад свои деньги. Или не получит: торгово-закупочные операции — это не только большая рентабельность, но и известный риск. Кстати, бледная копия договора, которую вам вручают в "Альционе", ее саму ни к чему не обязывает. Не имея на руках кассового ордера об оплате, ни в одном суде вы не докажете, что кому-то отдали свои деньги.

В государстве, где работают законы и не спят в шапку органы, следящие за исполнением законов, кипучий бизнес "Альционы" давно был бы остановлен, а ее средства арестованы. И кто б тогда вернул деньги легковерным обывателям?

Но мы живем в том интересном пространстве-времени, когда законы только обсуждаются и принимаются. Работать они, видимо, начнут позже. И когда слышишь, что в этот сиротский гостиничный номер за полгода простаки принесли несколько миллионов, этому почти веришь.

... В дверь уже заглядывал следующий посетитель. Сотрудник Сергей радушно улыбнулся очередным десяти тысячам...

Даю прямой, нерекламируемый телефон "Альционы". Для тех, кто захочет выяснить судьбу своего "вклада", — 70-87-44.

### Чтоб не оказаться в роли простака,

стоит прислушаться к словам Виктора Курьяна. В Госинспекции по ценным бумагам он занимает должность начальника отдела по эмиссии и государственной регистрации.

— Виктор Васильевич, что гарантирует регистрация в вашем ведомстве акций того или иного общества?

— Только достоверность сведений, изложенных в проспекте эмиссии. И — скажем так — реальность проектов, в которые предполагается вкладывать деньги акционеров. Но риск в той или иной степени всегда имеется. И тут все решает сам инвестор.

— Но от явного мошенничества закон должен меня защитить?

— Действующие законы я не могу назвать в этом смысле совершенными. Установлен порядок, при котором достаточно лишь краткого сообщения об АО, чтобы приступить к первичному размещению ценных бумаг. Здесь многое зависит от чистоты рук и намерений учредителей.

— Но вы как специалист, наверное, порекомендуете что-то, чтобы удержать людей от неразумных шагов?

(Окончание на 2-й стр.)

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Мусім паведаміць вам, што з-за цяжкасцей у забеспячэнні папераў "Народная газета" ў бліжэйшыя дзень-два, на жаль, не выйдзе. Выбачайце, калі ласка, за вымушаны перапынак у выданні. З боку рэдакцыі прымаюцца ўсе захады, каб гэты перапынак не зацягнуўся.

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні Тарашкевічу І.І. ганаровага звання "Заслужаны работнік аховы здароўя Рэспублікі Беларусь"

За заслугі ў арганізацыі медыцынскай дапамогі ваеннаслужачым, высокае прафесійнае майстэрства прысвоіць начальніку нейрахірургічнага аддзялення 432-га галоўнага ваеннага клінічнага шпіталя Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь ТАРАШКЕВІЧУ Івану Іванавічу ганаровае званне "Заслужаны работнік аховы здароўя Рэспублікі Беларусь".

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С.ШУШКЕВІЧ.

16 лютага 1993 г.
г.Мінск. N 2204-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб устанаўленні свята "Дзень міліцыі" ў Рэспубліцы Беларусь

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Устанавіць свята работнікаў міліцыі ў Рэспубліцы Беларусь — "Дзень міліцыі".

"Дзень міліцыі" святкаваць 4 сакавіка.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С.ШУШКЕВІЧ.

25 лютага 1993 г.
г. Мінск. N 2220-XII

*У камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Як справы, будаўнікі?

Адбылося пашыранае пасяджэнне Камісіі па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі вёскі і горада, у якім прынялі ўдзел адказныя работнікі міністэрстваў, кантралюючых органаў, банкаў, што курыруюць будаўнічую галіну ў рэспубліцы. Камісія прааналізавала стан спраў у будаўнічай вытворчасці, вызначыла дадатковыя меры, накіраваныя на скарачэнне незавершанага будаўніцтва ў рэспубліцы. Заслухана інфармацыя Саўміна аб арганізацыі ў гэтым годзе фінансавання кааператыўнага і індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва.

Разгледжаны і зацверджаны план работы камісіі на 1993 год.

## Будзе беларускі пашпарт!

Парламенцкая камісія па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД 24 лютага абмеркавала ход выканання ўрадам артыкула Закона РБ "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", які датычыць увядзення новых пашпартоў. Намеснік прэм'ер-міністра Сяргей Лінг паведаміў, што вядзецца падрыхтоўка да выпуску беларускіх пашпартоў, выдача якіх пачнецца ў першым квартале 1994 года.

Заслухана таксама інфармацыя ўрада аб правядзенні неабходных мерапрыемстваў па выкананню пастановы ВС РБ "Аб увядзенні ў дзеянне Закона РБ "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь".

У сувязі з наданнем камісіі паўнамоцтваў для вырашэння пытанняў, звязаных з СНД, удакладнена асноўная канцэпцыя яе работы ў гэтым напрамку.

## Рыхтуйся, журналіст, да сесіі

На пасяджэнні Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека разгледжана пытанне аб парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, назначанай на 23 сакавіка.

"Народнай газеце", газеце "Звязда" прапануецца сістэматычна і аператыўна асвятляць ход парламенцкага форуму. Афіцыйныя паведамленні аб рабоце сесіі рыхтаваць Белінфарму з удзелам рэдакцыйнай камісіі сесіі. Поўнасцю трансліраваць па тэлебачанні і радыё выступленні дэпутатаў у раздзеле "Рознае", рыхтаваць у дні пленарных пасяджэнняў спецыяльныя тэле-, радыёрэпартажы да 1,5 гадзіны кожны.

На камісіі адбыўся абмен думкамі аб парадку фінансавання рэспубліканскіх газет.

## Узброеныя сілы перабудоўваюцца...

Прайшло расшыранае пасяджэнне Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю. У рабоце камісіі прынялі ўдзел міністр абароны Рэспублікі Беларусь П.Казлоўскі і старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Э.Шыркоўскі. У сваім дакладзе аб ходзе рэарганізацыі Узброеных Сіл міністр абароны, генерал-палкоўнік П.Казлоўскі падкрэсліў, што ў 1992 годзе завяршыўся першы этап скарачэння армейскай групоўкі, размешчанай на тэрыторыі Беларусі. Асобныя часці расфарміраваны, у шэрагу іншых зацверджаны новы штатны расклад. Агульная колькасць асабовага саставу ў мінулым годзе зменшылася на 20 працэнтаў. У сувязі з рэзкім скарачэннем вялікай колькасці ваеннаслужачых з усёй вастрынёй паўстаюць праблемы працаўладкавання і пераабучэння многіх афіцэраў і прапаршчыкаў, звальняемых у запас. З гэтай мэтай пад Мінскам створаны цэнтр па перападрыхтоўцы армейскіх кадраў, дзе былыя ваеннаслужачыя атрымаюць цывільныя спецыяльнасці. Такі ж вучэбны цэнтр плануецца адкрыць у Лідзе.

Камісія прааналізавала выкананне Закона РБ "Аб статусе ваеннаслужачых" па пытаннях жыллёвага і медыцынскага забеспячэння армейскіх кадраў, намеціла шляхі іх хутчэйшага вырашэння.

Была падтрымана ініцыятыва Камітэта дзяржаўнай бяспекі аб вынясенні на чарговую сесію Вярхоўнага Савета праекта Закона РБ "Аб абароне дзяржаўных сакрэтаў".

Камісія зацвердзіла пералік праектаў законаў, якія будуць прадстаўлены на разгляд Вярхоўнага Савета ў 1993 годзе.

## Быць судова-прававой рэформе!

Адбылося рабочае пасяджэнне Камісіі па заканадаўству. Абмеркаваны прынцыповыя пытанні падрыхтоўкі пакета заканадаўчых актаў, якія рэалізуюць канцэпцыю судова-прававой рэформы. Яго прадугледжваецца вынесці на разгляд нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета. Прынята рашэнне аб неабходнасці больш актыўнага прыцягнення на стадыі падрыхтоўкі праектаў законаў зацікаўленых міністэрстваў, ведамстваў і народных дэпутатаў. З гэтай мэтай зацверджаны планы работы камісіі, вызначаны канкрэтныя арганізацыйныя формы работы над законапраектамі.

26 лютага камісія правяла навукова-практычную канферэнцыю па праекту Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Прэс-служба ВС РБ — Белінфарм.**

*Удакладненне*

## Каб зняць непаразуменне

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Аляксей Камай выказаў сваю нязгоду з той часткай справаздачы аб сесіі Вярхоўнага Савета "Так хочацца памножыць свае ўклады, але дзе на гэта грошы ўзяць" ("Народная газета" за 4 лютага 1993 г.), дзе пераказваецца прамова народнага дэпутата Аляксандра Саснова.

Каб зняць непаразуменне, сёння мы друкуем вытрымку з прамовы Аляксандра Саснова па стэнаграме: "І тут я ніяк не магу пакінуць без увагі нядаўняе выступленне паважанага народнага дэпутата Камая, у якім ён, на мой погляд, зрабіў даволі цікавае адкрыццё. Пры гэтым ён прэтэндаваў на ўсю праўду. Аказваецца, падпісаўшы 13 сакавіка 1992 года ў Маскве пагадненне аб прынцыпах і механізме абслугоўвання ўнутранага доўгу былога СССР, Рэспубліка Беларусь у асобе паважанага першага намесніка Старшыні Савета Міністраў Мясніковіча быццам прызнала, што гэтыя грошы не патрачаны, а выкарыстаны ў народнай гаспадарцы рэспублікі. Што, аказваецца, ніякіх зладзеяў і жулікаў няма. І гэта называецца праўдай. А праўда якраз заключаецца ў тым, што бакам, якія дамаўляліся ў Маскве, давялося пагадзіцца з неабходнасцю вярнуць людзям украдзеныя ў іх кіраўніцтвам СССР грошы. І тое, што лічылася на балансе ўстаноў Ашчадбанка Рэспублікі Беларусь, гэта ўсяго толькі тыя самыя даўгі, кожнаму ўкладчыку яны рэальныя грошы. Паважаны народны дэпутат Камай выявіў раптам, што гэтыя грошы, аказваецца, накіраваны былі на будаўніцтва магілёўскага "Лаўсана", светлагорскага "ЗІЛа", наваполацкага "Паліміру" і іншых прадпрыемстваў. Але ж кожны непрадузяты назіральнік ведае, што фінансаванне будаўніцтва такіх аб'ектаў ажыццяўлялася перш за ўсё за кошт цэнтралізаваных бюджэтных інвестыцый, хаця нельга адмаўляць і выкарыстанне крэдыту. Аднак уся справа ў тым, што астаткі ўкладаў насельніцтва, якія выкарыстоўваліся як крэдытныя рэсурсы, прадастаўляюцца ў адрозненне ад бюджэтных інвестыцый на зваротнай і платнай аснове, а ўсе пералічаныя аб'екты, пабудаваныя задоўга да 1985 года, года пачатку так званай перабудовы, і гэтыя крэдыты даўно вярнуліся з адпаведнымі працэнтамі задоўга да таго, як узначальваемае "мудрай і кіруючай накіроўваючай" саюзнае кіраўніцтва, патануўшае ў бессэнсоўных расходах, калі называць рэчы сваімі імёнамі, украла грошы нашага народа. Так што ні "Лаўсан", ні "ЗІЛ", ні "Палімір" нічога ўкладчыкам не павінны, а павінны ім Гарбачоў, Рыжкоў, Паўлаў і іншыя. Куды яны падзелі менавіта гэтыя грошы, сказаць складана, бо з часоў рымскіх імператараў (здаецца, Тыберыя, які ўвёў падаткі на грамадскія туалеты) усім вядома, што грошы не пахнуць. І мне ўяўляецца, што любыя спробы абвергнуць гэта сцвярджэнне не маюць поспеху".

*Как выжить?*

# Будьте осторожны: на ваш карман много охотников!

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

— Во-первых, постарайтесь собрать как можно больше информации об акционерном обществе, к акциям которого присматриваетесь. Узнайте — кто учредители, какой у них опыт за спиной. Попробуйте оценить программы, которые собирается осуществить общество. Если это строительство базы отдыха в Карабахе, то, наверное, не стоит рисковать сбережениями. Но если это план приобретения молокозавода и производства йогурта с фруктовыми наполнителями, почему бы и нет? Вполне перспективный бизнес.

А второй совет, по сути, исключает первый. Не ломайте себе голову, если вы не специалист, во всех тонкостях все равно не разберетесь. Пользуйтесь услугами профессиональных участников рынка ценных бумаг — брокерских контор, инвестиционных фондов и т.д. Их назначение как раз в том, чтобы консультировать инвесторов. Пока еще не зарегистрирован ни один профессиональный участник, но это дело ближайших месяцев. Думаю, уже весной я смогу принести вам перечень и адреса лиц, получивших лицензию. Чтобы люди знали, к кому можно без опаски обращаться.

— Но пока вы принесли другой перечень — акционерных обществ, чьи ценные бумаги прошли регистрацию. Что делать тем читателям, кто не обнаружит в списке своих акций?

— Во всех таких случаях обращайтесь к нам, в Госинспекцию по ценным бумагам. Мгновенного ответа по конкретным акциям я не обещаю. Будем разбираться, и если имеет место нарушение закона, нарушение прав инвестора, — применим данные нам полномочия. Звонить в Госинспекцию можно по телефону 46-25-97.

### И несколько слов

о тех ценных бумагах, которыми чаще всего интересуются наши читатели.

**Народная корпорация** "Громада" запомнилась минчанам невиданным размахом рекламы. Но сведения о ней приходится собирать по крупицам, в самых разных инстанциях. Виктор Курьян заверил, что как только Госинспекция будет иметь полную информацию о делах корпорации, он обязательно поделится ею с "Народной газетой". Тем, кто приобрел облигации "Громады", паниковать, может, и преждевременно: формально учредители нарушили только одно — не перерегистрировали свои ценные бумаги в установленный срок.

**Сведения об эмитентах по состоянию на 18.01.93 г.**

| Эмитент | Размер эмиссии (млн. руб.) | Номер государственной регистрации |
|---|---|---|
| *Банки* | | |
| 1. Белорусский народный банк | 25.000 | 002 |
| 2. Беларусь | 150.000 | 007 |
| 3. Поиск | 133.000 | 011 |
| 4. Белагропромбанк | 600.000 | 019 |
| 5. Белвнешэкономбанк | 300.000 | 009 |
| 6. Приорбанк | 150.000 | 027 |
| *Приватизируемые предприятия* | | |
| 1. Амкодор | 45.257 | 017 |
| 2."Мастра" | 34.200 | 026 |
| 3. Мілавіца | 46.000 | 014 |
| 4. Замчище | 11.260 | 010 |
| 5. АО "Содружество" | 4.025 | 028 |
| 6. Родина | 5.411 | 024 |
| 7. АМП "Копыльское" | 18.511 | 031 |
| *Вновь создаваемые АО* | | |
| 1. Элтис | 2.500 | 008 |
| 2. Экспресс-сервис | 1.286 | 004 |
| 3. НиК | 2.000 | 021 |
| 4. Вика | 0.501 | 005 |
| 5. Садружнасць | 30.000 | 003 |
| 6. Балины | 17.000 | 020 |
| 7. Геотрон | 30.000 | 015 |
| 8. Деловой центр | 5.313 | 022 |
| 9. Дубрава | 1.300 | 025 |
| 10. Инвест. технологии | 0.700 | 018 |
| 11. Инициал | 0.600 | 016 |

*ПРИМЕЧАНИЕ: сведения о биржах и торговых домах не приведены как неактуальные для настоящей публикации.*

Организационный период **АО "Белорусский биржевой банк"** действительно затянулся почти на год. Но 7 октября прошлого года состоялась наконец его регистрация в Национальном банке республики. Уставной фонд — 66 миллионов рублей, из них на 4,5 миллиона акций приобрели рядовые инвесторы. С декабря 1992 года БББ открыл кредитование клиентов. Выплату дивидендов акционерам правление предполагает начать уже в апреле. Контактный телефон БББ — 66-48-13.

**АО "Садружнасць"** как раз нельзя упрекнуть в неуважительном отношении к акционерам: оно регулярно публикует информацию о своей деятельности. Во многих отношениях "Садружнасць" была первой, и ее развитие можно считать типичным для АО, создаваемых "на голом месте". Долгое время капиталы находились в торговом обороте — в условиях высокой инфляции финансировать проекты с большим сроком окупаемости означало просто омертвлять деньги. Но уже сегодня менеджеры "Садружнасці" вплотную занимаются проектом, который обещает резко повысить привлекательность ее акций. Общество приобрело право надстроить второй этаж над одним из корпусов Дворца водного спорта. По окончании строительства "Садружнасць" становится собственником 400м² первоклассной офисной площади в центре Минска и таким образом первым из вновь создаваемых АО обеспечит свои ценные бумаги реальной стоимостью — недвижимостью. Можно предположить, что курсовая стоимость ее акций заметно возрастет. В этом смысле — из всех ценных бумаг, имеющихся сегодня в свободной реализации, акции "Садружнасці" кажутся наиболее предпочтительными для рядового инвестора. Контактный телефон АО "Садружнасць" — 27-57-21.

В целом выбор на фондовом рынке республики пока невелик. Мы не рассматриваем достоинства акций приватизируемых предприятий по той причине, что для большинства они недоступны. Конечно, завидно стать акционером "Мілавіцы": налаженное производство, устойчивый спрос на продукцию. Но акции "Мілавіцы", которая объявила себя открытым акционерным обществом, предусмотрительно раскуплены собственным персоналом — в первые же минуты подписки. Остается только поздравить коллектив с удачным приобретением.

Настоящее поле чудес на отечественном рынке ценных бумаг...

Чтобы вам не заплутать в нем, читайте нашу рубрику.

*Пад прыцэл!*

## Сярод браканьераў — усе "свае людзі"

Віктар ЧАРНУШЭНКА

**Сёлетні паляўнічы сезон, як і папярэдні, адзначаны ростам браканьерства. Прагныя да нажывы ўзброеныя людзі без перашкод гойсаюць па лясах і палетках. Пах дзічыны прыцягвае, як магніт. Каб было ўдосталь у продажы патронаў, то, здаецца, перастралялі б усё жывое...**




Малюнак Алега Папова.

Большасць браканьераў — звычайныя паляўнічыя. Возьмуць на брыгаду адну ліцэнзію, а падстрэляць двухтрох дзікоў ці лася. Бывае, што такіх аматараў прыкрываюць, а то і самі браканьернічаюць работнікі аховы лесу.

Падобнае здарылася нядаўна ў Вілейскім раёне. Тут на тэрыторыі лясной гаспадаркі тры гады назад быў створаны заказнік. Ніхто з паляўнічых нават і не думаў ніколі хадзіць туды са стрэльбай. Але апошнім часам сталі заўважаць, што ў заказнік ездзяць машыны, чуваць стрэлы.

Аднойчы брыгада паляўнічых вяла адстрэл пушнога звера ў адведзеным месцы. У той дзень ёй пашанцавала — завалілі воўка. Вяртаючыся дамоў, пачулі страляніну ў заказніку. Вырашылі праверыць. Убачылі, як з заказніка выехалі тры легкавушкі... Як раз на дапамогу падаспеў участковы інспектар міліцыі В.Крывашэй — ён праводзіў рэйд.

Усе літаральна аслупянелі, калі ўбачылі сярод браканьераў... егера Аляксандра Саковіча і спецыяліста-паляўнічага Вілейскага лясгаса Уладзіміра Саковіча. Разам з імі было яшчэ восем чалавек — усе з Маладзечна, "свае людзі".

Егер нахабна заявіў, што з дазволу дырэктара лясгаса ён мае права на прамысловы адстрэл лася. Участковы патрабаваў паказаць ліцэнзію. Саковіч сказаў, што не ўзяў яе з сабой. Не было ў прадстаўнікоў аховы лесу і спіса брыгады паляўнічых. Яны, дарэчы, адмовіліся прад'явіць паляўнічыя білеты. У багажніку адной з машын ляжаў дзікі кабан. Той жа егер Саковіч стаў сцвярджаць, што мае ліцэнзію на спартыўны адстрэл кабана. І на вачах усіх пачаў запісваць у пуцявы ліст членаў сваёй "брыгады", закрываць ліцэнзію на кабана. Відаць, браканьеры хацелі падстрэліць яшчэ аднаго кабанчыка, калі не болей.

Работнік міліцыі не змог забраць у іх пуцёўкі і ліцэнзію.

— Выходзіць, што заказнік стварылі для паляўнічых забаў выбраных людзей, для тых, хто павінен яго ахоўваць, — абураюцца ў пісьме ў рэдакцыю вязынскія паляўнічыя А.Ігнатовіч, А.Буслаўскі, М.Жаўняровіч і інш. — Няўжо браканьеры застануцца без пакарання?

На жаль, такое здараецца амаль паўсюдна. Спецыяльныя дружыны не спраўляюцца з браканьерамі. Няма паліва, каб адправіцца ў доўгі шлях, а таксама адпаведных правоў на затрыманне лясных разбойнікаў. Паспрабуй адняць у браканьера трафей або стрэльбу — можаш і кулю злавіць... Застаецца толькі праверыць дакументы і скласці пратакол. А потым яшчэ хадзі і даказвай, як усё было на самой справе. Не хапае сіл і ў міліцыі.

Частымі сталі канфлікты сярод паляўнічых за права валодаць гаспадаркай. Тут, як кажуць, праўда на баку тых, хто мае больш уплыву. Тыпічная гісторыя здарылася ў Магілёўскім раёне. Яшчэ ў 1970 годзе Дашкаўскай паляўнічай гаспадарцы было перададзена 9,3 тысячы гектараў. Праз шэсць гадоў, да сканчэння тэрміну дзеяння дагавора (10 гадоў), яго спыняюць. Дашкаўскія паляўнічыя ўгоддзі без усялякіх на тое прычын перадалі калектыву абласнога таварыства "Дынама", якое "паклала вока" на гэты куток.

Напачатку мясцовыя паляўнічыя ўжываліся з абласнымі. Але апошнія пакрысе сталі выцясняць гаспадароў. "Пакуль генерал не скончыў паляванне, у лес не хадзіць!" — прыказалі дашкаўцам міліцэйскія чыны.

Цяпер дашкаўцы шукаюць праўды ў вобласці і ў сталіцы. Але дзе там! Усё, як кажуць, схоплена. Перадачу паляўнічых угоддзяў правялі праз райвыканкам, потым яго рашэнне зацвердзіў аблвыканкам. На закон ніхто нават не звярнуў увагі. Пакрыўджаныя паляўнічыя паведамілі, што калектыву выдзелена тэрыторыя для палявання... аж у Слаўгарадскім раёне.

Па рашэнню Брэсцкага аблвыканкама былі забраны паляўнічыя ўгоддзі Пружанскага райсавета БООР. А там на працягу некалькіх гадоў вяліся работы па рэакліматызацыі аленяў, было затрачана звыш ста тысяч рублёў. Выходзіць, марна зрасходавалі час і грошы. Такім жа валявым рашэннем Віцебскі аблвыканкам забраў у мінулым годзе частку ўгоддзяў у Пастаўскім раёне, хаця тэрмін дагавора заканчваецца ў 1995 годзе.

Кіраўніцтва Дзяржкамэкалогіі, БООР было вымушана звярнуцца ва ўрад рэспублікі. 30 кастрычніка 1992 года за подпісам намесніка Старшыні Саўміна А.Бокача выйшла спецыяльнае распараджэнне, якое забараняе аблвыканкамам незаконную перадачу паляўнічых угоддзяў. Ці будзе выконвацца рашэнне? Наўрад: чарговы інцыдэнт ужо наспявае ў Магілёве...

*Нам стала вядома*

## Аб бедных падлетках закінце слова

**Старшыні абласных камітэтаў па справах моладзі абмеркавалі пытанні, звязаныя з рэалізацыяй дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Беларусі.**

Аддзел сацыяльнай абароны Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў рэспублікі падрыхтаваў пакет прапаноў па стварэнню дзяржаўнай службы прафесійнай арыентацыі моладзі, распрацоўцы сістэмы паўторнай занятасці падлеткаў. Значыць, ёсць надзея, што не далёкі той час, калі беспрацоўныя 15-гадовыя падлеткі перастануць "мазоліць" вочы дарослым, а зоймуцца сапраўднай справай.

**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

## Дэзерцірам не паздаровіцца

**У адпаведнасці з загадам міністра абароны Рэспублікі Беларусь у Брэсце пры ваеннай камендатуры гарнізона сфарміраваны ўзвод асобага прызначэння "Маланка".**

Ваеннымі ўжо затрымана некалькі салдат, якія самавольна пакінулі свае воінскія часці, праведзены шэраг прафілактычных мерапрыемстваў па рэальнаму навядзенню статутнага парадку ў гарнізоне.

**Іван КУКСА, Белінфарм,**

*г.Брэст.*

*Обезвредить преступника!*

## Занимались частным извозом...

**На протяжении 1989—1992 годов на территории Полоцкого и Миорского районов, города Новополоцка совершен ряд умышленных убийств граждан, занимающихся извозом на личном транспорте.**

11 января 1989 года в своей квартире в Новополоцке обнаружен труп Пузикова Федора Васильевича, 1959 года рождения. По заключению судебно-медицинской экспертизы смерть наступила от механической асфиксии вследствие удушения руками с переломом подъязычной кости. По имеющимся данным, Пузиков занимался скупкой и продажей легковых автомашин.

11 марта 1989 года в лесном массиве на 25-м км дороги Полоцк—Миоры вблизи д. Гаевка обнаружен труп Сивохо Николая Васильевича, 1947 года рождения, жителя Новополоцка. Смерть наступила в результате 19 ножевых ранений. Установлено, что погибший 10 марта 1989 года после 19 час. 30 мин. на личной автомашине ВАЗ-21013, г.н. В 33-14 ВТ, цвет "коррида", уехал из дома с целью перевозки пассажиров.

27 апреля 1991 года в 10 часов 30 мин. в одном метре от берега водохранилища около д.Бельчица Полоцкого района с огнестрельными ранениями обнаружен труп военнослужащего в/ч 19098 капитана Эпштейна Леонида Александровича, 1953 года рождения, проживавшего в поселке Боровуха-1. Со слов родственников Эпштейна, 26 апреля около 21 часа 15 мин. он уехал из дома на заправку и не вернулся. При осмотре места происшествия обнаружены 5 гильз от пистолета "Макаров".

24 сентября 1992 года в дежурную часть Полоцкого РОВД обратилась Толочко Т.М. с заявлением о том, что 23.09.92 г. примерно в 19 час. ее муж Толочко Петр Васильевич, 1953 года рождения, военнослужащий в/ч 64222, уехал на заправку на личной автомашине и домой не возвратился. 24.09.92 г. автомашина Толочко П.В. ВАЗ 21053, г.н. Ж 09-93 ВТ, была обнаружена в лесном массиве возле проселочной дороги, ведущей в д. Струбки, в 200 метрах от автострады Полоцк—Верхнедвинск. Установить место нахождения Толочко П.В. и причины его исчезновения до настоящего времени не представилось возможным.

Во всех случаях жертвами преступлений стали лица, занимающиеся частным извозом.

Просьба к гражданам, которым известно что-либо по данным фактам, сообщить в Полоцк по телефонам 4-24-01, 4-44-11, 4-43-62 или в ближайший отдел милиции.

**Уголовный розыск.**

*Очередная тема*



## Глуши моторы?

Виктор ЛЕЩЕНКО, Сергей ГРИЦ (фото).

**В феврале бензин на автозаправочных станциях так и не появился. И как следствие, цены на "черном" рынке набрали крутые обороты.**

Такое ощущение, что власти к этому и стремились, но у водителей почему-то восторга от нелегально свободных цен пока не наблюдается.

А наблюдается, наоборот, недовольство. Недовольны в первую очередь таксисты — они не знают, с кого брать "стольники" за двенадцатичасовой простой в автоочередях. Ибо теперь, чтобы в полдень вырулить на линию и "нарубать немного капусты", надо, например, в Минске занять очередь на заправке в полночь. Совершенно непонятно, как еще умудряются грузовики развозить хлеб по магазинам...

Как сообщил директор объединения "Минскавтозаправка" Виктор Тарасевич, скоро, видимо, начнется торговля горючим, купленным у одной иностранной фирмы. А-95 пойдет по 50 центов за литр. По словам Виктора Леонтьевича, к нему часто обращаются отечественные коммерсанты, предлагая бензин и по 90, и по 100 рублей, но пока все остается только на уровне предложений. По-видимому, выжидают, когда цены будут спущены с тормозов. Специалисты считают, что, отмени правительство фиксированные цены на горючее, Беларусь, образно говоря, завтра будет залита топливом. И стоимость его не подскочит выше, чем нынче на "черном" рынке.

Кстати, сегодня республика по межправительственным соглашениям обеспечивается нефтью где-то на 20 процентов от потребности. А впереди — посевная. Как сообщил начальник управления нефти и нефтепродуктов Комитета по нефти и химии Борис Шалунов, февраль и март они работают почти исключительно на селе.

Так, может, нашим нефтяным руководителям для скорейшего решения топливной проблемы провести очередное совещание на какой-нибудь бензоколонке? Отстояв, как водится в таких случаях, на своем лимузине сутки в очереди.

